# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень — 27 канал(аў) ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

22 красавіка 2016 года №17 **(1095)**





## "Камень спатыкнення – у самой пляцоўцы"

**У Нарачанскім краі абмяркоўваюць будаўніцтва фермы**

старонка 2

## Чалавек можа быць вольным толькі ў мастацтве

**Мікола і Наталля Аўчыннікавы ладзяць першую сумесную выставу ў Маладзечне**

старонка 6

## Футбол: Як прайшоў першы дамашні матч каманды "Іслач"

**Першыя сапернікі – сталічныя "Крумкачы"**

старонка 22



# У краме мацаць прадукты можна. На рынку – не. Што лепш?

старонка 21

Фота Настассі РОЎДЫ.

# Жыхарка дома па Вялікім Гасцінцы на сустрэчы з чыноўнікамі: "Мне што, трусы ў парку сушыць?"

МАЛАДЗЕЧНА

**Жыхары дома №60 па Вялікім Гасцінцы, абураныя тым, што будоўля новага дома зрабіла жыццё ў іх двары невыносным, сустрэліся са старшынёй Маладзечанскага райвыканкама Аляксандрам Яхнаўцом і іншымі чыноўнікамі.**

Сярод пытанняў, якія агучвалі жыхары дома былі такія:

– З-за будоўлі давялося перанесці сметніцу пад самыя вокны. Ці можна перанесці яе на большую адлегласць?

– Ці можна зрабіць праезд у двары скразным?

– Ці можна зрабіць невялікую пляцоўку для дзяцей і паркоўку хаця б на некалькі месяцаў?

– Жыхары першых паверхаў, у якіх няма балконаў, пыталіся, дзе ім сушыць бялізну.

Калі ж нехта з дзяржслужбоўцаў абмовіўся, што насупраць жа ёсць парк, адна актыўная жыхарка ўсклікнула:

– Вы прапануеце мне ў парку развесіць вяроўкі і сушыць там бялізну і трусы?

Акрамя Аляксандра Яхнаўца на сустрэчу прыйшлі намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Вадзім Цар**, намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Алег Хлебавец**, начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва **Святлана Хрусталёва**, дырэктар інстытута "Маладзечнапраект" **Анатоль Пракапенка**, дырэктар упраўлення капітальнага будаўніцтва **Аляксей Нагіх**, дэпутат Маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў **Юры Крывенькі.**

Сустрэча доўжылася каля паловы гадзіны. Мясцовыя жыхары праявілі Аляксандра Яхнаўца па сваім двары, выказалі прэтэнзіі.

– Пакажыце пальцам, куды вам перанесці сметніцу, – прапанаваў старшыня Маладзечанскага райвыканкама. Жыхары ўказалі месца.

– З гэтым пытанне вырашанае.

– Але планам будаўніцтва тут прадугледжаны праезд будаўнічай тэхнікі, – спрабаваў спрачацца Аляксей Нагіх.

– З гэтым пытанне вырашанае, – паўтарыў Аляксандр Яхнавец.

На развітанне старшыня райвыканкама абяцаў цягам тыдня разабрацца ў сітуацыі і паведаміць жыхарам пра сваё рашэнне.

"Рэгіянальная газета" будзе сачыць за тым, як будуць развівацца падзеі і паведаміць пра адказ уладаў у бліжэйшым нумары газеты.

**Наталля ТУР.**

# Юныя інтэлектуалы дэманстравалі веды пра "Маю Беларусь"

ВІЛЕЙКА

У раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі 16 красавіка прайшоў інтэлектуальны турнір "Савяня" сярод дзіцячых камандаў.

Чарговы турнір юных інтэлектуалаў на тэму "Мая Беларусь" складаўся з трох тураў. Першы тур пад назвай "Трапнае слоўца беларускае" правялі ў форме гульні "Інтэлектуальная азбука". Удзельнікам па апісанні неабходна было назваць слова на пэўную літару беларускага алфавіта.

"Скрозь прызму часу" – пад такой назвай праводзіўся другі тур у форме гульні "Эрудытлато". Юныя інтэлектуалы мусілі адказаць на 20 пытанняў з гісторыі, культуры, геральдыкі, эканомікі Беларусі.

У трэцім туры, які праводзіўся ў форме "Сваёй гульні", прапанавалі тры тэмы: "Малая радзіма", "Гарады" і "Сведкі гісторыі".

Пераможцай стала каманда "Ніка" вілейскай гімназіі №1 "Логас", другое месца заняла каманда "Неасакратыкі" (сярэдняя школа №3 Вілейкі).

Трэцяе месца падзялілі паміж сабой каманды "Фартуна" з вілейскай гімназіі №2 і "Двойчы два" з Асіпавіцкага сада-базавай школы.

Пераможцаў і прызёраў узнагародзілі дыпломамі аддзела адукацыі, спорту і турызму і прызамі раённага клуба дзіцячых і моладзевых інтэлектуальных гульняў "Бронзавая Сава".

**Сяргей РЫЖЭВІЧ,**
**культарганізатар раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**

# "Камень спатыкнення – у самой пляцоўцы"

## У Нарачанскім краі абмяркоўваюць будаўніцтва фермы

МЯДЗЕЛ

**Яна разлічаная на 1800 кароў. Ферму плануюць размясціць паміж вёскамі Нарач (Кабыльнік) і Швакшты. Да возера Нарач – каля шасці-сямі кіламетраў.**



Фота bnp.by.

За вёскай Нарач збіраюцца пабудаваць ферму на 1800 кароў. Экологі раяць падумаць над пляцоўкай.

У вёсцы Нарач 13 красавіка адбыўся папярэдні сход па абмеркаванні справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе аб'екта.

– Сход прайшоў у фармаце пытанне-адказ. Быў добра арганізаваны, гэта пра многае гаворыць, – ацаніў рэгіянальны каардынатар грамадскай экалагічнай інспекцыі "Зялёны дазор" **Ігар Пастухоў**. – Падчас сустрэчы ўсплыло шмат дробных заўваг, якія лёгка выправіць. Што датычыць больш глабальных пытанняў, яны патрабуюць дэталёвай дапрацоўкі.

Камень спатыкнення – у самой пляцоўцы, лічыць Ігар Пастухоў:

– Бо ферму плануюць пабудаваць на сетцы вадасцёкаў: чатырох меліярацыйных каналаў, якія спалучаюцца з ракой Малінаўка. А яна звязваецца праз сістэму вадасцёкаў з азёрамі Свір і Нарач і ўскосна з возерам Вішнева, – тлумачыць ён.

– На мой погляд, і, думаю, калегі са мной пагодзяцца, – сам праект патрэбны і карысны, але проста не ў тым месцы ферму думаюць узводзіць. Ачышчальныя збудаванні там будуць і, сцвярджаюць, што самыя сучасныя. Але чалавечы фактар не выключаны. Калі дзесяць год усё будзе выдатна працаваць, але раптам у адзін дзень у выніку чалавечага фактару гнаявая жыжа трапіць у раку?! Ці не лепш выключыць гэты фактар: проста пабудаваць ферму ў бяспечным месцы, па-за вадасцёкаў. У такім выпадку, калі нешта падобнае зробіцца, то гэта закране толькі тэрыторыю фермы, але далей не выйдзе.

Пагаджаецца **Ігар Пастухоў** з думкай юрыста грамадскага аб'яднання "Экадом" **Рыгора Фёдарава**:

– З аднаго боку – усё экалагічна, замкнуты цыкл. Але адну дэталь не прадумалі. Прадугледжаная наяўнасць пяці адкрытых сховішчаў-лагунаў, у якіх будзе адстойвацца гной. Адпаведна метан будзе выходзіць у навакольнае асяроддзе. А разам з тым прадугледжаная кацельня на цвёрдым паліве. Не лепш было б выкарыстоўваць біягазавыя ўстаноўкі. Заказчык прыняў гэта да ведама.

Кажа Ігар Пастухоў, што яго не парадавала, што з мясцовых жыхароў на сход прыйшлі толькі тры чалавекі.

### "Скіды ніяк не трапяць у азёры"

Заказчык праекта – таварыства "Нарацкая Ніва 2004".

– Вырашылі правесці папярэдні сход перад вынікобым, каб пачуць прапановы і заўвагі эколагаў і жыхароў. Выслухалі, запісалі, каб па магчымасці ўнесці карэкціроўкі ў праект і па некаторых пытаннях даць адказы, – кажа эканаміст таварыства **Яўген Кудрук**.

**– Эколагі пераважна наракаюць на няўдалы выбар пляцоўкі...**

– Іх разглядалі чатыры. Лепш за ўсё падыйшла з пункту гледжання ўздзеяння і на жыхароў, і на экалагічны стан менавіта гэта пляцоўка. На адной давялося б высякаць лес, другая – вельмі блізка да Швакштаў, трэцяе пляцоўка, дзе стаяць закінутыя свінарнікі, зусім блізка да вёскі Нарач. Што датычыць трапляння сцёкавых вод, то гэта выключана. Таму што будуць стаяць сучасныя ачышчальныя збудаванні, скіды ніяк не трапяць у азёры. Пад кароўнікамі будуць бетонныя ізаляваныя каналы. Па праекце адходы жыццядзейнасці жывёл будуць трапляць ў пяць ізаляваных заглыбленых гнаясховішчаў-лагунаў. Яны будуць герметычныя, з бетону, у сярэдзіне бетоннай ямы пакладуць вялізны тоўсты поліэтыленавы "мяшок".

Дадаў Яўген Кудрук, што ў праекце выкарыстаныя тэхналогіі, выкупленыя ў галандцаў. Даводзіць, што фермаў такога плана па эфектыўнасці і навізне мала ў Беларусі.

Выніковы сход па абмеркаванні справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе праекта намечаны ў вёсцы Нарач на 29 красавіка.



**Алесь ВЫСОЦКІ**
alvy@tut.by

# Кіроўцу, які прабіў колы на пуцеправодзе, "Белдзяржстрах" прызнаў "адзіным, хто вінаваты ў шкодзе"

МАЛАДЗЕЧНА

**Арцём Малькевіч**, кіроўца, што прабіў колы на пуцеправодзе ў канцы сакавіка з-за таго, што з ямы тырчала арматура, зноў завітаў у рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты".

На гэты раз з дакументам, што выпадак Арцёма не з'яўляецца страхавым. І што ён адзіны "причинитель вреда".

– Сёння атрымаў даведку не на маю карысць, – тлумачыць Арцём, – і, шчыра кажучы, я абураны такім рашэннем. Мала таго, што мне, як здаецца, незаслужана далі штраф, таму што я ніяк не мог убачыць гэтую яміну, дык яшчэ і "Белдзяржстрах" адмовіў у страхоўцы. У даведцы напісалі, што "Камунальнік" не вінаваты ў тым, што яны не адрамантавалі дарогу. У мяне вялікая машына, я падатак плачу амаль 4 мільёны і павінны за свае грошы рамантаваць машыну? Адназначна, на гэтым я не супакоюся і буду дамагацца праўдзівага рашэння.

Намеснік дырэктара прадстаўніцтва "Белдзяржстраха" **Аляксандр Ластоўскі** расказаў, што на такое рашэнне паўплываў запыт, які яны зрабілі ў ДАІ.

– Згодна з даведкай, якую нам даслалі з ДАІ, вінаваты ў здарэнні кіроўца. Мы машыну агледзелі, зрабілі фотаздымкі. Факт таго, што ў здарэнні вінаваты "Камунальнік", не пацвердзіўся.

Аляксандр Ластоўскі падкрэсліў, што ў "Камунальніка" застрахаваная грамадзянская адказнасць. І калі выпадкі парушэнняў з боку "Камунальніка" бясспрэчныя, то страхоўка выплачваецца.

– Так адбываецца часцей за ўсё ў летні перыяд, калі ў дварах косяць траву. Здараецца, што каменьчыкі, якія адлятаюць ад газонакасілак, шкодзяць аўто, выбіваюць шыбы. Тады страхоўку выплачвае "Камунальнік". А аўтауладальнікам магу параіць на такія выпадкі мець "АўтаКАСКУ".

**Наталля ТУР.**

# Асцярожна! Лінія электраперадач

**Ахова ліній электраперадач ад пашкоджанняў з'яўляецца важнай дзяржаўнай справай.**

Пашкоджанні іх выклікаюць перапынкі ў забеспячэнні электраэнергіяй прамысловых і сельскагаспадарчых спажыўцоў, населеных пунктаў, наносяць вялікія страты народнай гаспадарцы, могуць прывесці да гібелі людзей.

Маладзечанскія электрычныя сеткі папярэджваюць кіраўнікоў калгасаў, арганізацый, прадпрыемстваў, грамадзян аб неабходнасці захавання Правілаў аховы электрычных сетак напружаннем да і вышэй за 1000 В.

**Назіраецца рост няшчасных выпадкаў са смяротным зыходам пры лоўлі рыбы паблізу і пад правадамі паветраных ліній (ПЛ), якія праходзяць над вадаёмамі, рэкамі ці азёрамі (набліжэнне вудаў на недапушчальную адлегласць да правадоў ПЛ).**

Вялікую колькасць пашкоджанняў ліній электраперадач выклікаюць парушэнні правілаў праходжання работ паблізу або пад правадамі ліній электраперадач, работы на трасах паветраных ліній стралавых кранаў, сельскагаспадарчых машын і механізмаў, лесанарыхтоўчых работ, збудавання ўсялякіх аб'ектаў без ведама электрасетак і г.д., а таксама іншыя прычыны (накіды на правады, наезды на апоры ліній электраперадач аўтатранспарту і сельскагаспадарчых машын, дакрананне да правадоў высокагабарытных механізмаў, прастрэлы ізалятараў і інш., падзенне дрэў на правады).

Для стварэння нармальных умоў эксплуатацыі электрычных сетак устанаўліваюцца ахоўныя зоны.

Гэтая зона вызначаецца ўздоўж паветранай лініі электраперадач у выглядзе зямельнага ўчастка і паветранай прасторы, абмежаваных вертыкальнымі плоскасцямі, адлеглымі па абодва бакі лініі ад крайніх правадоў пры неадхіленым іх становішчы на адлегласць:

для ліній напружаннем
35 кВ – 15 метраў
110 кВ – 20 метраў
220 кВ – 25 метраў
330 кВ – 30 метраў

Зямельныя ўчасткі, якія ўваходзяць у ахоўныя зоны электрычных сетак, не адбіраюцца ў землекарыстальнікаў і выкарыстоўваюцца імі для правядзення сельскагаспадарчых і іншых работ з абавязковым захоўваннем патрабаванняў Правілаў аховы электрычных сетак.

**Асабліва небяспечна дакранацца вудзільнам непасрэдна да правадоў ПЛ пры лоўлі рыбы пад паветранай лініяй.** Таксама магчымае дакрананне машын і механізмаў непасрэдна да праводу паветранай лініі, калі адбываецца набліжэнне да яго на недапушчальна блізкую адлегласць, абрыў праводу і яго падзенне на механізм ці наезд механізма на абарваны провад.

Праводзіцца работы ў ахоўнай зоне паветранай лініі з прымяненнем высокагабарытных машын і механізмаў павінны толькі па нарадзе-допуску, які выдаецца тэхнічным кіраўніцтвам уладальніка машын і механізмаў. Допуск да работ па нарадзе робіць прадстаўнік электрычных сетак – уладальнік ПЛ.

У ахоўных зонах паветраных ліній **ЗАБАРАНЯЕЦЦА**:

**- лавіць рыбу**;

**- працаваць у пралётах** ПЛ, дзе ёсць абарваныя правады, а таксама набліжацца да апораў, што маюць абарваныя правады і падвяргаюцца аднабаковаму цяжэнню, а таксама да саміх абарваных правадоў на адлегласць 20 метраў;

**- набліжацца да апораў** ПЛ, якія маюць прыкметы замыкання на зямлю (разбураны ізалятар, абарваная вязка, вакол апоры выпарэнне вільгаці, пажар, раставанне снегу, на апоры гарыць дуга і г.д.), на адлегласць менш за 20 метраў, а таксама працаваць у пралётах, якія прылягаюць да гэтых апораў;

**- праязджаць** машынам і механізмам, якія маюць агульную вышыню з грузам ці без грузу ад паверхні дарогі больш за 4,5 метра;

**- выконваць земляныя работы** на глыбіні больш за 0,3 метра, а на ворных землях больш за 0,45 метра, на адлегласці менш за два метры ад апораў, падкосаў, адцяжак без пісьмовага дазволу ўладальніка лініі;

**- складзіраваць** кармы, угнаенні, салому, торф, дровы і іншыя матэрыялы, разводзіць агонь у ахоўных зонах паветраных ліній;

**- садзіць і высякаць** дрэвы і кусты;

- **узводзіць драцяныя агароджы** для садоў, агародаў;

**- прымаць самастойна** якія-небудзь меры па зняцці праводу з машыны ўручную, у тым ліку і з дапамогай якіх-небудзь прадметаў;

**- дакранацца да апораў**, залазіць на іх або прывязваць жывёлу;

**- накідваць ці прыстаўляць да правадоў** ПЛ якія-небудзь прадметы;

**- устройваць усялякага роду звалкі;**

**- размяшчаць запраўчныя станцыі** і іншыя сховішчы гаруча-змазачных матэрыялаў у ахоўных зонах паветраных ліній электраперадач;

**- размяшчаць палявыя станы**, загоны для жывёл, а таксама палівацьсельскагаспадарчыя культуры;

**- працаваць са стогаскладальнікамі** пад правадамі паветранай лініі;

**КАТЭГАРЫЧНА ЗАБАРАНЯЕЦЦА** запраўляць машыны гаручым у ахоўнай зоне.

Машыны і механізмы трэба спыняць толькі па-за ахоўнай зонай ПЛ.

Пры аварыйным спыненні любой машыны ў ахоўнай зоне ПЛ яна павінна быць выцягнутая з ахоўнай зоны на буксіры ў самы кароткі тэрмін.

Пры падзенні праводу ПЛ на машыну кіроўца павінны неадкладна спыніць машыну. Калі пры гэтым можна вызваліць машыну ад абарванага праводу перамяшчэннем машыны, то неабходна зрабіць гэта як мага хутчэй і паведаміць аб тым, што здарылася, у электрычныя сеткі.

Калі няма такой магчымасці, відавочца павінны паведаміць аб здарэнні ў электрычныя сеткі і да прыбыцця аварыйнай брыгады ні кіроўца, ні відавочца не павінны прымаць ніякіх дзеянняў. Набліжацца да машыны на адлегласць бліжэй за 20 метраў забараняецца.

Калі ў выніку наезду на апору, падзення праводу ПЛ або ўзнікнення электрычнага разраду машына загарыцца, неабходна тэрмінова яе пакінуць, але так, каб не было адначасовага сутыкнення чалавека з машынай і зямлёй. Лепш за ўсё скокнуць на зямлю на абедзве сагнутыя нogі, не трымаючыся за машыну. Аддаляцца ад машыны можна толькі скачкамі на адной ці дзвюх нагах або "гусіным крокам", не адрываючы ступні ног адна ад адной, і адысці такім чынам ад машыны на адлегласць не менш за 20 метраў. Пра здарэнне неабходна паведаміць у электрычныя сеткі па тэлефонах:

**(8-0176) 72-62-85,**
**(8-0176) 72-65-36**, Маладзечна, вул. Драздовіча, 27 або ў Маладзечанскія гарадскія электрасеткі -
**(8-0176) 74-70-70**
Маладзечанскі РЭС -
**(8-0176) 54-62-15**
Вілейскі РЭС -
**(8-01771) 5-56-65**
Валожынскі РЭС -
**(8-01772) 5-53-47, 144.**
Мядзельскі РЭС -
**(8-01797) 5-53-47.**

Да прыбыцця спецыяльнай брыгады забараняецца рабіць якія-небудзь дзеянні па тушэнні машыны і набліжацца да яе бліжэй за 20 метраў.

Работы ў ахоўнай зоне паветранай лініі арганізацыям, прадпрыемствам і прыватным асобам можна выконваць толькі пры пісьмовым дазволе і допуску Маладзечанскімі электрасеткамі.

За парушэнне Правілаў аховы ліній электраперадач, якое выклікала ці магло выклікаць перапынак у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй, пашкоджанне электрычных сетак або прычыненне іншай шкоды народнай гаспадарцы, вінаватыя прыцягваюцца да строгай адміністрацыйнай адказнасці.

Згодна з Кодэксам РБ аб адміністрацыйных парушэннях (артыкул 20.3):

1. **Парушэнне правілаў** аховы электрычных сетак РБ цягне за сабой папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры:
- на фізічную асобу - да 20 базавых велічынь;
- на індывідуальнага прадпрымальніка - да 50 базавых велічынь;
- на юрыдычных асоб - да 200 базавых велічынь.

2. **Парушэнне правілаў аховы электрычных сетак РБ, якое выклікала пашкоджанне электрычных сетак або перапынак у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй, альбо прычыненне іншай шкоды, цягне за сабой накладанне штрафу ў памеры:**
- на фізічную асобу - ад 20 да 50 базавых велічынь;
- на індывідуальнага прадпрымальніка - ад 20 да 100 базавых велічынь;
- на юрыдычных асоб - да 500 базавых велічынь.

**Адміністрацыйнае спагнанне не вызваляе вінаватага ад пакрыцця матэрыяльнай шкоды ва ўстаноўленым парадку.**

**Маладзечанскія электрычныя сеткі.** УНП 100071593

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 14.04 | 21.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 19 849,00 | **19 829,00** |
| Еўра | 22 536,00 | **22 535,00** |
| Злоты | 5 296,57 | **5 226,46** |
| Расійскі рубель | 301,52 | **300,68** |
| Грыўня | 778,22 | **779,65** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 20.04** | | |
| Еўра | 22400/22700 | **22300/22600** |
| Долар ЗША | 19700/19870 | **19700/19950** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 13.04 | 20.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 179 800 | **179 800** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | **28 900** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 70 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 42 500 | **42 500** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 19 500 | **19 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 500 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **8 300** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | **7 500** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 65 000 | **64 900** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 18 500 | **14 900** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 9 900 | **9 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 47 000 | **49 900** |
| Лімоны, 1 кг | 47 000 | **47 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 24 900 | **25 000** |
| Мандарыны, 1 кг | 26 500 | **40 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 24 500 | **24 500** |
| Ківі, 1 кг | 29 900 | **30 000** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **5 500** |
| Памідоры, 1 кг | 36 500 | **35 000** |
| Агуркі, 1 кг | 28 500 | **27 000** |
| Перац, 1 кг | 59 900 | **50 000** |
| Радыска, 1 кг | 39 000 | **35 000** |
| Вінаград, 1 кг | 38 500 | **45 000** |
| Бананы, 1 кг | 27 900 | **25 000** |
| Гранаты, 1 кг | 29 900 | **35 000** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 45 000 | **50 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 14 500 | **13 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 26 900 | **25 000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 60 000 | **60 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |



**лічба нумара**

**4 540 963 000 рублёў** – **столькі беларусы заплацілі грошай на замежныя туры**

**738 671** – столькі турыстаў з Беларусі выязджалі за мяжу
**276 260** – столькі замежных турыстаў наведалі Беларусь

Дадзеныя ўзятыя за 2015 год. Паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта.

## У Вілейцы загарэўся "Мерсэдэс"

**ВІЛЕЙКА**

Каля палова сёмай раніцы 9 красавіка паступіла паведамленне, што гарыць аўтамабіль па вуліцы Талстога ў Вілейцы. Стаяў ён насупраць інтэрната. Загаранне ўбачылі прахожы, зайшоў у інтэрнат і сказаў, каб патэлефанавалі ў службу 101.

Па прыбыцці выратавальнікаў з салона машыны ішоў дым. Загарэўся "Мерсэдэс-Бэнц Е230" 1997 года выпуску.

У выніку пашкоджаны салон аўтамабіля. Іншыя машыны не пацярпелі.

Папярэдняя прычына пажару – кароткае замыканне электраправодкі на месцы ўстаноўкі акумулятара, расказаў старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Гаўрышчук.**

## Прадпрымальны валожынец прадаў курткі іх гаспадару

**ВАЛОЖЫН**

Выпадак адбыўся ў Валожыне сёлета на пачатку лютага. Распавяла пра яго следчая Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч.**

32-гадовы валожынец прыйшоў да знаёмага пазычыць гарэлкі. Атрымаўшы адмову, мужчына не прыдумаў нічога лепшага, як скрасці ў яго курткі. Ён ведаў, што гаспадар захоўвае іх у сябе ў падвале.

Забраўшы рэчы, мужчына вырашыў далёка не хадзіць у пошуках пакупніка. Ён зноў звярнуўся да свайго знаёмага і прапанаваў яму купіць курткі за алкаголь. Той асабліва не разглядаў, што набывае, пагадзіўся і даў спіртное.

На наступны дзень ён заўважыў, што з падвала зніклі рэчы. Тады ён агледзеўся і зразумеў, што купіў уласныя курткі.

Пацярпеламу 72 гады.

Абвінавачаны раней прыцягваўся да адказнасці за нявыплату аліментаў.

Крымінальная справа накіраваная ў суд.

Праводзіцца праверка ў адносінах да пацярпелага па факце продажу алкаголю.

**Аддзел інфармацыі.**

## Жыхары Смаргоншчыны не абмінулі ніводнай "халявы" і нарабілі шкоды на 15 мільёнаў рублёў

**СМАРГОНЬ**

У Смаргонскім раёне трое мужчын ва ўзросце ад 45 да 51 года вырашылі нажыцца за чужы кошт.

Разам яны адправіліся да апораў ліній электраперадач, там знялі 125 метраў электракабелю.

Па дарозе ўбачылі аўтамашыну КАМАЗ, з якой злілі 50 літраў паліва. Але і на гэтым не спыніліся. Убачыўшы грузавы МАЗ, злілі яшчэ 50 літраў саляркі.

Агульная шкода, якую мужчыны прычынілі за свой паход, склала амаль 15 мільёнаў рублёў.

Цяпер падазроныя затрыманыя, раней судзімы быў толькі адзін з іх.

**Паводле uvd.grodno.by**

## Шукаюць валожынца, які з'ехаў на работу ў Расію

**ВАЛОЖЫН**

**Валожынскі райаддзел міліцыі шукае Сяргея Валер'евіча Жукоўскага, які нарадзіўся 29 сакавіка 1969 года. Зарэгістраваны па адрасе: Валожын, вуліца 1 Мая, дом 20.**



Сяргей Жукоўскі ў лістападзе 2013 года з'ехаў у Маскву на работу па найме і да гэтага часу яго месцазнаходжанне невядомае.

Прыкметы Сяргея Жукоўскага: еўрапейскага тыпу, на выгляд каля 45-50 гадоў, высокага росту, хударлявы, плечы апушчаныя, смуглы, вочы шэрыя, валасы кучаравыя, чорныя, памер абутку 42-43.

Асаблівыя прыкметы: ахрыплы голас ад захворвання на сухоты.

Валожынскі РАУС перакананаўча просіць, калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміце па тэлефонах: **102, (8029) 507-66-98, 685-53-02.**

**Паводле Валожынскага РАУС.**

# За 15 гадоў найчасцей танулі дома ў ванне

**МАЛАДЗЕЧНА**

**На мінулым тыдні ў краіне патанулі пяць чалавек.**



Фота bt-women.com.ua.

Будзьце асцярожныя, калі прымаеце ванну.

Асноўная прычына – падзенне ў ваду ў нецвярозым стане. Але мяне здзівіў выпадак у Магілёве – жанчына 62 гадоў утапілася дома ў ванне.

Год таму ў Маладзечне быў аналагічны выпадак – у ванне патанула жанчына сталага ўзросту.

Вырашыўшы падрабязней разабрацца ў сітуацыі, я прааналізаваў выпадкі патаплення на Маладзечаншчыне за апошнія 15 гадоў (ад 2000 да 2015). Вынікі здзівілі – са 111 тапельцаў больш за ўсё людзі танулі дома ў ваннах (19 чалавек). 90% – людзі сталага ўзросту.

Пасля я звярнуўся да дактароў.

**У 2005 годзе ў ваннах патанула людзей больш, чым у вадаёмах за ўвесь купальны сезон.**

Яны адказалі, што кожны выпадак трэба разглядаць асобна, але часта людзі з сардэчнасасудзістымі захворваннямі ў перыяды рэзкага змянення ціску адчуваюць холад. Каб сагрэцца, яны вырашаюць прыняць гарачую ванну. У выніку рэзкага павышэння тэмпературы навакольнага асяроддзя, арганізм рэагуе адпаведным чынам – павышаецца ціск. Гэта ў сваю чаргу прыводзіць да змянення сардэчнага рытму, спазмаў сасудаў.

У выніку чалавек на кароткі час губляе свядомасць і пагружаецца з галавой у ваду. У дыхальныя шляхі трапляе вада і наступае смерць ад асфіксіі.

Калі ў вас ёсць праблемы з сардэчна-сасудзістай сістэмай, не прымайце ванну з гарачай вадой, абмяжуйцеся душам. Памятайце пра бяспеку падчас водных працэдур.

**Аляксандр СЕМАШКЕВІЧ, кіраўнік раённай арганізацыі таварыства выратавання на водах.**

## У Маладзечне ДАІ з мігалкамі і сірэнай спыняла кіроўцу "Аўдзі"

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пагоня пачалася каля 8 гадзін раніцы ў панядзелак, 18 красавіка.

Кіроўца на "Аўдзі-А6" ехаў у накірунку Смаргоні па Вялікім Гасцінцы. Непадалёк ад ГЦ "Спадарожнік" супрацоўнік ДАІ жэзлам паказаў яму спыніцца, але кіроўца нібы не адрэагаваў.

Міліцыя з мігалкай і сірэнай ехала за ім і патрабавала спыніцца. Супрацоўнікам ДАІ давялося ў гучнагаварыцель папярэджваць усіх удзельнікаў руху, каб яны былі асцярожныя і ўважлівыя.

Кіроўца "Аўдзі-А6" двойчы парушыў правілы дарожнага руху, ішоў на абгон там, дзе стаяў знак, які абгон забараняе.

Спыніць яго атрымалася ў вёсцы Насілава. Кіроўцу затрымалі з прыкметамі алкагольнага ап'янення. Яго даставілі ў псіханеўралагічны дыспансер у Маладзечне, дзе медыцынскае заключэнне пацвердзіла, што кіроўца быў нецвярозы.

Канцэнтрацыя пароў абсалютнага этылавага спірту ў выдыху склала 0,4 праміле.

На кіроўцу складуць пратаколы аб адміністрацыйным парушэнні за тое, што не спыніўся на патрабаванні супрацоўнікаў ДАІ, за кіраванне ў нецвярозым стане і што быў непрышпілены.

На аўтамабіль накладзены арышт, яго даставілі на штрафстаянку ДАІ.

Кіроўцу "Аўдзі-А6" 45 гадоў.

## У Маладзечанскім раёне малады чалавек на "Масквічы" спрабаваў з'ехаць ад ДАІ

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пасля затрымання на яго склалі адразу сем пратаколаў.

Пагоня за 24-гадовым жыхаром Маладзечанскага раёна пачалася ў панядзелак, 18 красавіка, каля 7:30 раніцы ў вёсцы Маліноўшчына.

Кіроўца на "Масквічы" ехаў па вуліцы Цэнтральнай. Калі супрацоўнік ДАІ паказаў яму, каб спыніўся, праігнараваў і паехаў далей.

Міліцыя пачала праслед з мігалкамі і сірэнай, але малады чалавек працягваў рухацца.

Хутка яго спынілі. З прыкметамі алкагольнага ап'янення яго адвезлі ў псіханеўралагічны дыспансер у Маладзечне. Медыцынскае заключэнне пацвердзіла, што кіроўца нецвярозы.

Канцэнтрацыя пароў абсалютнага этылавага спірту ў выдыху склала 1,8 праміле.

На маладога чалавека склалі пратаколы за кіраванне ў нецвярозым стане за тое, што не мае правоў кіравання, што не спыніўся на патрабаванні супрацоўніка ДАІ, што не быў прышпілены рамянём бяспекі, кіраваў аўтамабілем з тэхнічнымі няспраўнасцямі, адсутнічала страхоўка і ён не пройдзены дзяржтэхагляд.

На аўтамабіль накладзены арышт.

Аўто накіраванае на штрафстаянку.

## Каля "Модуля" ў Маладзечне сутыкнуліся два "Рэно": адзін не саступіў дарогу

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанец на "Рэно-Меган-Сцэнік" ехаў па Вялікім Гасцінцы з боку Смаргоні ў накірунку вуліцы Гарадоцкай па крайняй левай паласе.

Калі паварочваў налева на зялёны сігнал святлафора, не саступіў дарогу кіроўцу "Рэно-Меган-Класік", за рулём якога быў 30-гадовы маладзечанец. Ён ехаў у сустрэчным накірунку па сярэдняй паласе з боку Мінска.

Адбылося сутыкненне.

Як патлумачыў вінаваты ў ДТЗ, пры паварoце налева ён не бачыў "Рэно" з-за таго, што з крайняй левай паласы ў сустрэчным накірунку ў бок Хажова паварочвала велікагрузнае аўто. Яно абмяжоўвала бачнасць.

41-гадовага кіроўцу "Рэно-Меган-Сцэнік" прыцягнулі да адказнасці за ДТЗ. За парушэнне можа быць дадзены штраф ад 3 да 30 базавых велічынь і пазбаўленне правоў кіравання да двух гадоў.

Пра ўсе здарэнні распавёў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош.**

**Аддзел інфармацыі.**

# Нарачанец уручыць прыз на чэмпіянаце Еўропы па футболе

## Для гэтага яму давялося даказваць, што ён найлепшы заўзятар

МЯДЗЕЛ

**Упершыню ў гісторыі прыз лепшаму гульцу матча чэмпіянату Еўропы па футболе будзе ўручаць заўзятар з Беларусі. І гэта наш зямляк настаўнік Леанід Краўчонак з курортнага пасёлка Нарач (Купа).**

Заслужыў ён гэта права перамогай у творчым конкурсе "Мабыць, лепшы заўзятар Беларусі", які праводзіў адзін са спартыўных беларускіх сайтаў. У конкурсе Леанід абышоў каля чатырохсот заўзятараў з Беларусі.

Галоўным прызам стала пуцёўка на матч чэмпіянату Еўропы па футболе, у якім 15 чэрвеня ў французскім Лілі згуляюць каманды Расіі і Славакіі. Пераможца таксама ўручыць прыз лепшаму гульцу матча.

Леанід раскажа, як яму ўдалося даказаць песімістам, што ў такіх конкурсах мажліва перамагчы, і чаму заданне станцаваць ледзьве не выбіла яго з удзелу.

### Разам з ім танцавалі і вучні, і настаўнікі

Леанід ні хвіліны не сумняваўся, ці ўдзельнічаць у конкурсе. Як толькі ўбачыў яго рэкламу, адразу ж зарэгістраваўся. Бо хто з сапраўдных заўзятараў упусціць магчымасць пазмагацца за такі прыз.

На першым этапе ўдзельнікі размяшчалі здымак на сайце з невялікім подпісам пра сябе. Трэба было патрапіць у дзясятку першых па выніках галасавання, што Леаніду ўдалося.

Наведнікі сайта выбіралі і заданне для паўфінала. Яны прагаласавалі за такое: прыдумаць і выканаць танец спартыўнага заўзятара, зняць гэта ўсё на відэа. Якраз гэта заданне нарачанцу вельмі не падабалася. Леанід нават засумняваўся, ці варта ўдзельнічаць далей:

– Таму што, яшчэ з малады гадоў, вельмі сароме́ўся, што зусім не ўмею танцаваць. І запрасіць дзяўчыну на танец было для мяне вялікай праблемай, – тлумачыць ён. – Але вырашыў прагнуць барацьбу, бо інакш падвёў бы людзей, якія за мяне прагаласавалі ў першым туры.

І ролік з'явіўся. У ім Леанід прыгадаў гісторыю, як ён хацеў трапіць у валанцёры на Алімпійскія гульні-80, але зламаў нагу, гуляючы ў футбол. Тады мара не споўнілася. Затое ў памяці засталася спартыўная мелодыя таго часу, пад якую спрабаваў танцаваць з кастылём. А цяпер пад яе танцаваў не толькі ён сам, а і вучні і педагогі Нарацкай сярэдняй школы №2.

Як вынік, відэа стала пераможцам танцавальнага этапу. Працавала над ім цэлая каманда. Таму Леанід шчыра дзякуе ўсім калегам і асабліва намесніку дырэктара па выхаваўчай рабоце **Тацццяне Куцко**, вучням, якія на канікулах не пашкадавалі часу і прыйшлі ў школу для запісу роліка, выпускніку **Мікіту Вайцяшонку**, які манціраваў відэаролік.

У фінале спатрэбілася ўжо дапамога дырэктара Нацыянальнага дзіцячага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра "Зубраня" **Надзеі Ануфрыевай** і тамтэйшага відэаапаратара **Івана Маліноўскага**: на стадыёне цэнтра здымалася відэа для фіналу. У ім трэба было паказаць, чаму прэтэндэнт лічыць сябе лепшым заўзятарам.

> **У роліках Леанід агітаваў за спорт і па-беларуску, і па-англійску – ён выкладае гэту мову ў школе.**

У фінал выйшлі два ўдзельнікі. Леанід зноў жа выйграў галасаванне наведнікаў сайта – за яго прагаласавалі больш за тры тысячы чалавек. Але за яго саперніка выказалася журы. У выніку зафіксавалі нічыю і аб'явілі суперфінал.

У ім два прэтэндэнты ў Мінску адказвалі на пытанні з гісторыі футбола. Леанід з імі справіўся бліскуча: нават хвіліну на роздум не браў і адказваў адразу. А пытанні былі няпростыя. Паспрабуйце, напрыклад, прыгадаць прозвішча югаслаўскага футбаліста, які адкрыў лік у фінальным матчы з камандай СССР на чэмпіянаце Еўропы 1960 года?

У выніку нарачанец перамог з лікам 6:2.



Фота Руслана ШАФЕЕВА.

Леанід Краўчонак лічыць, што поспех залежыць толькі ад нас саміх.

### Піша вершы на кожны матч Азаранкі

Леанід Краўчонак прыгадвае, што актыўна займаўся футболам і баскетболам толькі ў маладосці, дзесьці да 30 год. Цяпер пра гэта толькі ўспамінае з настальгіяй і гуляе ў шахматы.

Затое шчыра перажывае за беларускіх спартсменаў: у футболе, тэнісе ды іншых відах. Ад душы радуецца, калі яны перамагаюць:

– Тады хочацца жыць, працаваць, любіць, кахаць. І не здавацца ні ў якой сітуацыі – нават тады, калі, здаецца, усё супраць цябе.

Жонка з цягам часу бскарылася з яго захапленнем, а дзве дарослыя дачкі-двайняткі самі цікавяцца тэнісам.

Акрамя футбола і тэніса, Леанід вельмі любіць паэзію. Шмат піша пра спорт. На кожны матч тэнісісткі **Вікторыі Азаранкі** больш за чатыры гады піша адзін-два вершы. Апошнім часам размяшчае іх у яе групе падтрымкі "Укантакце". Вельмі быў засмучаны, што не змог патрапіць на сустрэчу тэнісісткі з беларускімі заўзятарамі, якая прайшла некалькі дзён таму ў Мінску. Але яго радкі, прысвечаныя Вікторыі, на гэтай сустрэчы прагучалі з вуснаў сяброў яе групы падтрымкі.

Вікторыя – не толькі спартыўны кумір Леаніда. Для яго, кажа, яна ўжо як трэцяя дачка:

– За чатыры апошнія гады не прапусціў ніводнага яе матча ў прамым эфіры, у які б час ён бы ні адбываўся. Хоць Вікторыя нашмат маладзейшая за мяне, менавіта ад яе вучуся, як не падпарадкоўвацца абставінам, а кожную хвіліну існаваць насустрач сваёй мары.

**– Пра сваю перамогу на конкурсе ці будучым чэмпіянаце Еўропы ці з'явіліся вершаваныя радкі?**

– Абавязкова з'явяцца, але крыху пазней. Ад паездкі на чэмпіянат чакаю прыемных уражанняў. Дужа цікава будзе акунуцца ў атмасферу галоўнага еўрапейскага футбольнага форуму. Чакаю знаёмстваў з новымі людзьмі, сустрэчы з любімымі футбалістамі.

### "Хто, калі не я?"

Конкурс прымусіў Леаніда не толькі станцаваць, але і пацвердзіў яго жыццёвае крэда:

– Адным з маіх галоўных крэда ў жыцці заўсёды былі словы "Хто, калі не я?" Усё жыццё выхоўваю вучняў менавіта ў такім накірунку. Трэба ставіць перад сабой вялікія мэты і рабіць усё магчымае дзеля іх здзяйснення. Поспех залежыць толькі ад нас саміх. Яшчэ раз у гэтым пераканаўся, калі перамог у конкурсе. Хтосьці са знаёмых пераконваў мяне: "Навошта марнуеш сілы і час, у такіх конкурсах усё куплена, ну, немагчыма ў іх перамагчы". Мяркую, што змог даказаць адваротнае.

**Відэаролікі глядзіце на Rh.by**



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

### Пратэрмінавай прадукцыі ў магазінах Вілейшчыны становіцца менш

ВІЛЕЙКА

Доктар-гігіеніст Вілейскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Алена Ліхачэўская** адзначае станоўчую тэндэнцыю: пратэрмінавай прадукцыі на прылаўках магазінаў становіцца менш. І прыводзіць лічбы:

– За першы квартал года яе знайшлі толькі ў каля 12% правераных аб'ектаў, у той жа час у 2014 годзе за аналагічны перыяд – у 17% магазінаў. Сёлета вага такой прадукцыі склала 31,5 кілаграма, а два гады таму яе было амаль 75 кілаграмаў.

Аднак у 100% выяўляюць парушэнні вытворчага кантролю з боку суб'ектаў гаспадарання.

– Здзіўляе факт невыканання прадпісанняў, рэкамендацый і выяўленне паўторных парушэнняў на працягу года на прадпрыемствах гандлю і грамадскага харчавання, – кажа спецыяліст. – У Вілейцы такіх прадпрыемстваў было тры, і ў межах Указа Прэзідэнта Беларусі "Аб дадатковых мерах па абароне правоў спажыўцоў" іх дзейнасць прыпынялі на пэўны час у залежнасці ад цяжкасці парушэнняў. Гэта магазін №8 і сталовая "Вяснянка" прадпрыемства "Садружнасць", магазін №1 Вілейскага ККЗ. Яшчэ адзін выпадак быў на раёне: магазін прадпрыемства "Сцепановіч Е. І." у вёсцы Лукавец.

### Забаранілі прадаваць амаль 190 кілаграмаў прадукцыі

Не змяншаецца на прылаўках магазінаў колькасць падазронай па якасці і недабраякаснай прадукцыі: размарожанай і паўторна замарожанай, успухлых кансерваў, гнілой гароднiны і садавіны, і той, у якой няма на этыкетцы належнай інфармацыі.

Па матэрыялах праверак прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці 51 службовую асобу на суму амаль 100 мільёнаў рублёў і тры юрыдычныя асобы на суму больш за 80 мільёнаў. Вынеслі 12 прадпісанняў аб прыпыненні дзейнасці і 36 пастаноў аб забароне продажу прадукцыі агульнай вагой амаль 190 кілаграмаў.

– Спецыялісты дзяржаўнага санітарнага нагляду працягнуць правярацць, як выконваецца санітарна-эпідэміялагічнае заканадаўства. Аднак незразумела, чаму работнікі гандлю і грамадскага харчавання не зацікаўлены ў захаванні даверу пакупнікоў, – канстатуе Алена Ліхачэўская.

**Аддзел інфармацыі.**

# “Чалавек можа быць вольным толькі ў мастацтве”

## Мікола і Наталля Аўчыннікавы адкрываюць першую сумесную выставу ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**Ён вырашыў жыць у Маладзечне, хаця ні разу тут не быў, і стаў адным з мастакоў “залатога часу” горада. Яна працавала дызайнерам, аздабляла помнікі, а ў кватэры на кожным кроку след яе залатых рук. Яны жанатыя 42 гады, але сумесную выставу ў сваім горадзе ладзяць упершыню.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Мікола і Наталля Аўчыннікавы распавядаюць пра працу мастака “Прытулак для душы”. За ёй на мальберце стаяць работы Наталлі.

Выстава “У кругазвароце аднаўлення” адкрываецца ў Палацы культуры 22 красавіка, а працаваць будзе да 13 мая. Аўчыннікавы плануюць стварыць утульнае адкрыццё. Працы выстаўляюць муж і жонка, нявестка Марыя будзе іграць на піяніна. Падтрымліваць іх будуць сын Альберт і ўнук Арцём, які чакае 4-годдзя.

– Мне не так ужо і боязна, таму што пад абаронай прафесійнага мастака. Адна я і не асмелілася б паказаць свае працы, – адзначае Наталля.

А ў доме Аўчыннікавых атмасфера салона не знікае ніколі. У гаспадароў каля ста карцін, сярод якіх ёсць каштоўныя падарункі. Яны збіраюць прыгожыя аксесуары, на ганаровых месцах сямейныя рэліквіі – абраз, якім бласлаўлялі бабулю на вяселлі, гладыш, з якога маленькі Мікола піў малако, ручнікі, што засталіся ад бацькоў.

Інтэр’ер упрыгожваюць рэчы, да якіх прыклала руку Наталля: вышыты абрус, упрыгожаная кухонная канапа, фіранкі, размаляваная мэбля. А ў адным пакоі на ганаровым месцы вісіць самая першая праца маладзечанскага мастака:

– Мой першы шэдэўр, – усміхаецца Мікола Аўчыннікаў. – Я вышыў гэтага коціка ў першым класе. Наташа яго выратавала, адрэстаўравала.

У прыхожай гаспадароў – працы сяброў і знаёмых: Аляксея Марачкіна, гравюра Ядвігі Раздзялоўскай 1939 года, творы Юрыя Герасіменкі. Побач праца шведскага мастака, такая карціна ёсць у Аўчыннікавых і ў караля Карла XII.

**Мікола**: А вось карціна Кастуся Харашэвіча. Заходжу ў камісійны магазін, гляджу – прадаецца Харашэвіч. Ён некаму падарыў, а той збыў працу. І я набыў яе за смешныя капейкі. Тут працы шведскага скульптара – бабцы было каля 80 год і яна са зварачным апаратам рабіла з металу скульптуры.

Для Міколы Аўчыннікава гэта будзе 202-я выстава. У майстэрні ён паказвае свае працы:

**Мікола**: “Ноч у старым парку ў Камарове”, “Над ракой Сэрвач у Будславе”, а вось “Камяні пры дарозе”. Я ўсё змагаюся, каб перасталі размалёўваць валуны на Маладзечаншчыне, але ж не слухаюць. Гэта як у Разанава – у парку ляжалі тры валуны, сёння іх расфарбавалі ў сіні колер – і тысячагоддзі памерлі. Ён жа прыгожы сам! Продкі яму пакланяліся, ад іх такая энергетыка, нашто псаваць?

### 42 гады разам

**Наталля**: Мы ў адну школу хадзілі на Гомельшчыне, ён вучыўся на клас старэй. З класа восьмага мы рабілі насценгазеты. І ён маляваў, і я малявала, мой тата мастаком быў. Спаборнічалі, хто лепшую газету зробіць. Пабачыла, што такія працы нічога, зацікавілася, што гэта за Аўчыннікаў.

Коля паступіў у Віцебск, і ўсе пяць год мы падтрымлівалі сувязь. Я паехала ў вучэльню ў Магілёве, дзе была мастацкая студыя. Калі закончыла, пайшла на завод па вырабе лаўсану. Аказалася, што там ёсць студыя выяўленчага мастацтва. Вось там я займалася, яшчэ і прыватныя ўрокі брала.

Мне падабаецца дэкаратыўна-прыкладное мастацтва – рабіла паштоўкі, дыванкі, лямпы вязаныя. І паехала абараняцца ў Мінск. А да гэтага ўдзельнічала ў рэспубліканскай выставе самадзейнай творчасці мастакоў. Мая праца называлася “Артэрыі камбіната”. Усе казалі – ну, што там цікавага ў заводах, а для мяне гэта было штосьці незямное, з мноствам труб. Вось іх у карціне паказала.

Абаранілася, далі мне кніжачку, што маю права выстаўляцца. Але я творчасцю займалася для сябе. Пасля пайшла на працу ў “Будсэрвіс”, дзе адпрацавала 25 год дызайнерам 9 разраду. Напачатку была мастаком-афармляльнікам. Работы было поўна. Аздабляла ленінскі пакой, дзе адпачывалі. Калі Савецкі Саюз развальваўся, у нас арганізаваўся цэх па вырабе помнікаў. І я 10 год там адпрацавала, зрабіла дзесьці 500 надпісаў на помніках. Рукі ўмацавала – надпісы трэба было выбіваць на мармуры ці мармуровай крошцы.

Пасля пачала распрацоўваць інтэр’еры для розных устаноў.

**Мікола**: 42 гады разам. Ні разу не пасварыліся, і гэта не дзякуючы мне (*смяецца*).

**Наталля**: Кажуць, што ў кожнай сям’і сварацца. А на мяне глядзяць з недаверам: “Як гэта не пасварыцца ні разу”. Ну чаго сварыцца – жывём, працуем.

**Мікола**: Пасля заканчэння пакідалі мяне на кафедры. Але як размяркоўвалі, пыталіся, куды паеду. А сястра жыла ў Мядзеле і раіла пераязджаць у Маладзечна – някепскі горад, недалёка і Мінск, і Вільня. І я, ні разу тут не быўшы, так і бабахнуў.

### Ад карціны ледзь не страціла прытомнасць

**Наталля**: Мы вялікіх мастакоў пабачылі ў замежных выставах. Калі я зайшла ў Галандыі ў музей і калі ўбачыла карціну “Мяніны” Веласкеса, то думала, што страчу прытомнасць. Мне падавалася, што яны зараз выйдуць да мяне і нешта скажуць. Далей была праца Рэмбрандта “Начны дазор”, і ўсе наведнікі накіраваліся туды. Але па дарозе я ўбачыла кухонны галандскі стол, якому больш за 500 год. А на ім усе зарубінкі і драпінкі. Я не магла адысці ад гэтага стала – колькі гаспадынь стаяла, працавала за ім.

**Мікола**: Вось, напрыклад, “Чорны квадрат”. Каштоўны не сам квадрат, а яго філасофія. Малевіч давёў жывапіс да пэўнай кропкі. У гэтым квадраце ён заглыбіў усе сюжэты і ўсе фарбы. І сусветны авангард пайшоў з Віцебска.

**Наталля**: А мы верылі ў камунізм.

**Мікола**: Гатовы былі рубель паслаць беднаму негру, які ў Амерыцы на лаўцы спіць, газетай прыкрыўшыся.

### Што ты хацеў сказаць?

**Наталля**: Вядома, што непадрыхтаваныя людзі не заўсёды могуць ацаніць мастацтва. Як і з класічнай музыкай – не ўсім яна даспадобы. Але звычайна кажуць тактоўна, што не разумеюць.

**Мікола**: А мастакоў заўсёды ставяць да сценкі: “Што ты хацеў сказаць?” Да музыкантаў вось няма такой прэтэнзіі.

Толькі ў мастацтве чалавек можа быць вольным. Гэтая свабода і прываблівае іншых да работ творцы. Усё астатняе падпарадкоўваецца грамадству.

**Наталля**: І на пенсію можна не выходзіць, пакуль пэндзаль можаш трымаць.

У Міколы працы вялікія, у мяне маленькія. Ён, мабыць, і не бачыць, як я працую. Ён любіць вялікі чысты белы аркуш паперы, а я такіх лістоў баюся. Мы з сястрой у дзяцінстве глядзелі на аблокі і расказвалі, што ў іх бачылі. Таму я спачатку ліст фарбую сваім спосабам, каб ён быў, як тыя аблокі. І тады гляджу і бачу, што з яго можа атрымацца – там кветка, там матылёк. Часам атрымліваецца нешта фантазійнае. Аднойчы атрымаліся кветкі, якіх ніколі не бачыла. Прыехалі ў Швецыю – а там тая кветка, якую я намалявала.

### Хто ўшануе “залаты час” Маладзечна

**– Як выбіралі назву выставы?**

**Мікола**: Наша жыццё ідзе па кругу. І за жыццё круг замыкаецца. Хаця кажуць, што ўсё развіваецца па спіралі, але мы ж за сваё кароткае жыццё спіраль не бачым.

У Наталлі цяпер такі занятак – расаду дагледзець. Увесь балкон застаўлены, і на падваконні яшчэ. Называе кветкі сваімі сябрамі. Пасля іх на лецішчы пасадзіць, яны зацвітуць, пазней звянуць. Але я іх намалюю і захаваю. Так што яна вырошчвае мне занятак на лета.

**– Вы цяпер найстарэйшы мастак Маладзечна?**

**Мікола**: Дзякуй богу, не, ёсць яшчэ Алесь Пашкевіч. Але можна толькі з настальгіяй прыгадваць “залаты час” Маладзечна, калі на любой выставе ў Мінску здзіўляліся, наколькі моцны ў нас мастакоўскі асяродак, і казалі: “О, ну гэта Маладзечна прыехала” – Васіль Лазоўскі, Кастусь Харашэвіч, Юры Герасіменка, Ядвіга Раздзялоўская... А ў той жа час працавалі Ермаловіч і Каханоўскі! Што быў за час!

**– Як Маладзечну павярнуць культуру да мастацтва?**

**Мікола**: Для гэтага трэба цэнтр, вакол якога фарміравалася б асяроддзе. Я калі прыехаў у горад, то казалі, што няма грошай на мастацкую галерэю. 42 гады прайшло, а грошай усё няма. За 42 гады нельга знайсці магчымасць арганізаваць такі цэнтр?

**Наталля**: І калі прыязджаеш у новы горад, вядома, хочаш паказаць самае лепшае – творы мастацтва. А куды гасцей нашага горада звадзіць?

**Мікола**: Ёсць пляцоўкі, дзе ладзяць выставы, але менавіта галерэя – зусім іншае, гэта іншы ўзровень для горада. Ну і, вядома, у Год культуры мы чакаем выдання каталога мастакоў Маладзечаншчыны.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Больш фота rh.by.**

ТЭМА НУМАРА



Фота Наталлі ТУР.

На рынку райспажыўтаварыства прадавачкі самі выбіраюць вам садавіну і гародніну.

# Мацаць садавіну рукамі – ні за што!

МАЛАДЗЕЧНА

**У магазіне над латком з садавіной-гароднінай тоўпяцца людзі. Кожны перабірае агуркі ці лімоны, шукае нечага лепшага.**

Пры гэтым кашляюць і труцца верхнім адзеннем аб тыя самыя латкі.

Непрыемнае відовішча, пагадзіцеся. А між тым, гэта звычайны рытуал у гандлёвых цэнтрах, вялікіх магазінах.

– Куды ў такіх выпадках глядзіць санстанцыя? – абурыліся мы і звярнуліся з гэтым пытаннем да доктара-гігіеніста, загадчыцы аддзялення гігіены харчавання Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Таццяны Кугары.**

– У санітарных нормах не прапісанае тое, што забараняецца самастойна выбіраць садавіну і гародніну. Але і дазволу на гэта таксама няма. Мы, як гігіеністы, у першую чаргу сочым за тым, каб сярод гэтай садавіны і гародніны не было гнілля. Пагадзіцеся, навошта выбіраць і перабіраць усе яблыкі, калі яны аднолькава добрыя. Таму і праверкі праводзім рэгулярна.

Што ж датычыцца пытання, што да гэтай садавіны і гародніны могуць дакранацца розныя людзі, у тым ліку і хворыя, Таццяна Іванаўна нагадала пра неабходнасць старанна мыць садавіну і гародніну, якую вы прынеслі з магазіна.

– Лепш за ўсё, вядома, пасля таго, як памылі, яшчэ абдаць яе кіпнем. І хочацца дадаць, што вірусы, як правіла, не ў арганізме не выжываюць, таму не варта баяцца заразіцца нейкімі віруснымі захворваннямі праз садавіну і гародніну, а вось інфекцыяй, якую выклікаюць бактэрыі, – лёгка. Таму парада адна – старанна мыць усю сырую прадукцыю.

**Віталь Сіняўскі**, загадчык інфекцыйным аддзяленнем Валожынскай бальніцы расказаў "Рэгіянальнай газеце", што якраз у перыяд з красавіка да лістапада павялічваецца колькасць хворых на інфекцыйныя захворванні.

– Я не магу прасачыць прамой прычынна-следчай сувязі з ростам інфекцыйных хвароў і ўжываннем імі немытай садавіны і гародніны. Але калі чалавек не кантактаваў ні з кім іншым хворым, не піў брудную ваду, то мы робім выснову, што заразіўся ён праз садавіну.

Віталь Францавіч упэўнены, што тое, што чалавек сам сваімі рукамі выбірае ў магазінах садавіну і гародніну, можа быць небяспечным для іншых людзей.

– Чалавек сам можа не ведаць, што ён з'яўляецца носьбітам інфекцыі. А калі тэмпература плюсавая, то бактэрыям прасцей выжываць у знешнім асяроддзі. Таму можа быць недастатковым проста памыць садавіну ў вадзе.

Загадчыца аднаго з магазінаў на наша пытанне адказала, што ў пакупнікоў павінна быць магчымасць выбару. І кожны пакупнік сам у стане выбраць сабе тую садавіну і гародніну, што прыйшлася яму даспадобы.

### Я нагледзела жоўтую грушу – яе ўзяць дазволілі

Дастаткова адзін раз прайсціся ўздоўж радоў з гароднінай на рынку райспажыўтаварыства, як можна заўважыць, што прадавачкі самі набіраюць у пакеты агуркі і памідоры, апельсіны і яблыкі і падаюць гэта пакупнікам.

Прадавачка **Святлана** так і тлумачыць, што пакупнікам не дазваляе самім выбіраць садавіну і гародніну:

– Каб яны мне спачатку паказвалі санітарную кніжку, то, магчыма, тады і давярала б, – жартуе жанчына.

Святлана лічыць, што робіць абсалютна правільна і прыгадала, як у магазіне жанчына выбірала нейкую садавіну рукамі, на якіх была экзэма.

– Рукі – гэта ж самая брудная частка цела, у кулак жа і кашляюць, і на руках шмат нейкіх ранак, бародавак і язвачак. А ў мяне ўвесь тавар навідавоку, пакажыце пальчыкам, я пакладу тое, што вам прыйшлося даспадобы.

– І праўда, – падхоплівае размову пакупніца, – мне спадабалася вялікая жоўтая груша з вітрыны, мне яе і прадалі.

Святлана гаворыць, што пакет з гароднінай яна не завязвае, а наўпрост падае пакупнікам.

– Ну, паглядзіце на тое, што я вам паклала, не спадабаецца, я памяняю. Яшчэ хочацца дадаць, што, магчыма, у магазіне не шкадуюць спісваць тонамі садавіну, якая сапсавалася, а я ж за кожны лімончык, за кожны яблычак перажываю. А што ж будзе, калі кожны націсне на іх?



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
80176
769667
(працоўны)

**Праўка**

У нумары "Рэгіянальнай газеты" ад 15 красавіка ў артыкуле "Падарожжа па горадзе, дзе вучылі танцаваць мядзведзяў і з'явіліся абаранкі" была дапушчаная памылка. Касцёл, пабудаваны ў 1533 годзе, сёння носіць імя архістратыга Міхаіла.

## Дударскія вечарыны ў Маладзечне: "Калі ўсё гэта бачыш, пачынаеш верыць, што ў нас ёсць будучыня"

МАЛАДЗЕЧНА

**Другі раз па запрашэнні маладзечанскага гісторыка-этнаграфічнага клуба "KOLA" "Дударскі клуб" наведвае горад сонца – Маладзечна.**



Фота забеспечана Воляй ТРУБАЧ.

**Патанцаваць традыцыйныя і сярэднявечныя танцы ўдзельнікі маглі пад гукі дуды.**

І ў другі раз дударскія вечарыны знаходзяць прыхільнікаў!

Сяброўская атмасфера, дух старадаўняй карчмы, жывая народная і сярэднявечная музыка, танцы, спевы і шмат весялосці – складнікі тыповай дударскай вечарыны.

Усю гэту атмасферу адчулі на сабе і ўдзельнікі клуба "KOLA", некалькі раз наведаўшы такія вечарыны ў сталіцы. Таму не змаглі ўтрымацца, каб не запрасіць дударскі клуб у Маладзечна.

Дудары пагадзіліся, і 27 лютага прайшла першая вечарына. Патанцаваць традыцыйныя і сярэднявечныя танцы прыехалі аматары з Мінска, Вілейкі, Алёхнавічаў і Маладзечна. Танцавалі беларускія традыцыйныя танцы: лявоніху, верабей, полькуматыльку, матлёт, базар і сярэднявечныя танцы: маразулю, бранль прачэк, ойру, кастэрват і іншыя.

Першы танец удзельнікі сядзелі і назіралі за тымі, хто танцуе. Другі – пачыналі пляскаць у далоні і прыстукваць нагой у такт, а на трэці – танцавалі пад музыку дуды.

Дудурскія вечарыны – добрая альтэрнатыва звыклым відам адпачынку, якія існуюць у горадзе. Да таго ж гэта не проста баўленне часу, але і магчымасць здзейсніць падарожжа ў мінулае.

### Удзельнікі пра дударскія вечарыны

**Зміцер Ваховіч:** "Папершае, мяне ўразілі адносіны да людзей, якія трапляюць упершыню на такое мерапрыемства – прымалі і віталіся як са старымі знаёмымі. Складвалася ўражанне, што ты тут свой.

Па-другое, прафесіяналізм дудароў. Падавалася, нібы дудары знаёмыя з інструментам з маленства.

Незвычайным падалося, што было шмат маладых, а самае галоўнае, зацікаўленых людзей, якія прыйшлі не проста паглядзець, а актыўна танцаваць да сёмага поту. Бачыш усё гэта і пачынаеш верыць, што ў нас яшчэ ёсць будучыня. Дзякуй за гэты вечар. Лічу, што трэба паўтарыць".

**Алеся Ушакова:** "На дударскую вечарыну трапіла ўпершыню і была вельмі ўражаная асаблівай атмасферай, якая панавала там. Цяпер не так часта можна пачуць, як моладзь размаўляе на роднай мове, а яшчэ радзей даводзіцца ўбачыць, як яна танцуе пад музыку старажытных беларускіх інструментаў. Да таго ж танцуе калектыўна, арганічна, з усмешкай на твары.

Усе рухі падрабязна паказвалі і тлумачылі перад танцам – таму я, як і іншыя навічкі, адчувала сябе камфортна. Акрамя танцаў і музыкі, было весела падчас гульняў. Удзельнічаючы ў іх, мне падалося, што я ў іншым стагоддзі – так усё натуральна і насамрэч па-беларуску прадумана арганізатарамі, якім варта падзякаваць. З нецярпеннем чакаю наступную вечарыну.

**Гісторыка-этнаграфічны клуб "KOLA" шукае маладзечанскіх (і не толькі) музыкаў, дзеля правядзення штотыднёвых танцавальных вечарын. Кантактны тэлефон: (8029) 53-53-105.**

Воля ТРУБАЧ.

**Даведка "РГ".** Дударскі клуб існуе ў Мінску з 2007 года як нефармальнае аб'яднанне беларускіх дудароў.

НАВІНЫ

## “Смаргонь” гуляе ў нічыю, “Ашмяны” прайграюць

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

Чэмпіянат Беларусі па футболе ў першай лізе стартаваў 16 красавіка.

“Смаргонь” у гасцях гуляла з “Зоркай-БДУ” са сталіцы. У гэтым матчы шасцёра футбалістаў “Смаргоні” дэбютавалі ў першай лізе.

У першым тайме гледачы галоў не ўбачылі. У пачатку другога гаспадары выйшлі наперад.

Смаргонцы змаглі адыграцца на 84-й хвіліне. Пры розыгрышы вуглавога мяч трапіў у штангу, і **Аляксандр Дземідовіч** з блізкай адлегласці закалаціў яго ў сетку.

– Гульня атрымалася стандартнай для дэбютнага афіцыйнага матча. Багацце барацьбы, куча адзінаборстваў і вялікая колькасць браку. Абедзве каманды дастаткова маладыя, таму эмоцыі зашкальвалі. Думаю, што вынік заканамерны, – прыводзіць словы галоўнага трэнера “Смаргоні” **Мікалая Рындзюка** афіцыйны сайт клуба.

ФК “Ашмяны” стартаваў у першай лізе матчам у гасцях з “Лідай”. Ужо на сёмай хвіліне ашмянцы прапусцілі гол. І да канца матча лік не змяніўся: 1:0 на карысць “Ліды”.

## У Вілейцы вучні гулялі ў шахматы

ВІЛЕЙКА

Раённы цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі 9 красавіка правёў аматарскі шахматны турнір сярод навучэнцаў шахматных гурткоў устаноў адукацыі горада.

Лепшых паказчыкаў дасягнулі **Мацвей Рагун** і **Вікторыя Палонская** з сярэдняй школы №3, **Раман Субач**, **Уладзімір Барысевіч** і **Дзмітры Чайкоўскі** з гімназіі №1 “Логас”, а таксама браты **Павел** і **Станіслаў Радчанкі** са спецшколы-інтэрната, якія ўпершыню ўдзельнічалі ў падобным турніры. Пра гэта паведаміў педагог дадатковай адукацыі цэнтра **Аляксей Гатоўка**.

## У Мядзеле сапернічалі тэнісісты і шахматысты

МЯДЗЕЛ

У райцэнтры прайшлі спаборніцтвы па настольным тэнісе і шахматах у межах круглагадовай спартакіяды сярод працоўных калектываў.

У настольным тэнісе перамагла каманда санаторыя “Белая Русь”. На другім месцы – прадстаўнікі Мядзельскай ЖКГ, на трэцім – НДЦ “Зубраня”.

А ў спаборніцтвах па шахматах мацнейшым быў **Сяргей Баброўка** з каманды аддзела адукацыі, спорту і турызму. На другім месцы – **Мікалай Дудкоў** (Слабадскі сельсавет), на трэцім – **Генадзь Жукоўскі** (Энерганагляд), расказаў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі**.

## У кросе беглі вучні

МЯДЗЕЛ

У райцэнтры прайшоў раённы лёгкаатлетычны крос сярод школьнікаў. У групе “А” перамаглі вучні Мядзельскага ясляў-сада-сярэдняй школы, на другім месцы – Мядзельскай СШ №1, на трэцім – гімназіі-інтэрната.

У групе “Б” лепшыя вынікі ў бегуноў з Будслаўскай школы. Далей размясціліся каманды Занарацкай і Сырмежскай СШ.

## На адной пляцоўцы гулялі бацькі і дзеці

МЯДЗЕЛ

У межах абласнога бацькоўскага сходу у фізкультурна-аздараўленчым цэнтры прайшоў таварыскі матч. Гулялі каманды мядзельскай сярэдняй школы №1 і ясляў-сада–сярэдняй школы. На пляцоўцы у кожнай камандзе павінны былі быць з дзецьмі і двое бацькоў, расказаў дырэктар цэнтра **Андрэй Русак**. Упэўнена перамагла каманда СШ №1.

## Начальнік Вілейскага райаддзела – лепшы ў тэнісе

ВІЛЕЙКА

У Беразіно 15 красавіка прайшлі фінальныя спаборніцтвы чэмпіянату Мінскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях па настольным тэнісе сярод начальнікаў райаддзелаў.

У фінале гулялі начальнік Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Яхімовіч** і Капыльскага – **Віталь Ільючык**. Ва ўпартай барацьбе пераможцам стаў Аляксандр Яхімовіч.

Пра гэта паведамілі з райаддзела па надзвычайных сітуацыях.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Настасі РОЎДЫ.

Пад касцюмам ваўка Вулфі хаваецца заўзятар “Іслачы” Ігар.

# Віталь Жукоўскі: Першы дамашні матч – гэта як бойка з-за дзяўчыны...

МАЛАДЗЕЧНА

**...Не страшна прайграць і быць пабітым. Страшна, што яна пра цябе падумае.**

17 красавіка ў Маладзечне першы дамашні матч згуляла каманда “Іслач”. Першымі сапернікамі на дамашнім полі сталі сталічныя “Крумкачы”.

На вялікі жаль, каманды так і не парадавалі аматараў футбола забітымі мячамі. Фінальны лік застаўся нічыйным – 0:0.

Ды і сам галоўны трэнер каманды “Іслач” **Віталь Жукоўскі** пасля матча прызнаўся, што гульню разбіраць яму не хочацца. Больш важнай задачай было для каманды тое, каб народ прыйшоў на стадыён.

І, гледзячы на афіцыйную статыстыку, гэта атрымалася.

На матчы прысутнічалі 4 100 чалавек.

Сярод гледачоў мы заўважылі намесніка старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Генадзя Актанаровіча**:

**– Ці даўно вы з’яўляецеся футбольным заўзятарам?**

– Я не сказаў бы, што я заўзятар. Пакуль лічу сябе аматарам. Але сёння прыйшоў падтрымаць “Іслач”.

– Лік матча будзе 2:0 на карысць “Іслачы”, так і запішыце, – прадракаў вынік варатар **Мікалай Абрамовіч.**

Настрой гледачам на стадыёне ствараў талісман каманды – воўк **Вулфі**.

– Вулфыч, – так і прадставіўся малады чалавек у касцюме ваўка. Але пазней “воўк” прызнаўся, што завуць яго **Ігарам** і што ён з’яўляецца заўзятарам “Іслачы” даўно.

– Спачатку прыйшоў у каманду як балельшчык, ездзіў на ўсе выезды каманды. Відаць, заслужыў, – смяецца хлопец, – што мне даверылі такую важную місію.

А місія, як прызнаецца Ігар, насамрэч вельмі важная: падымаць настрой гледачам на трыбунах.

– Футбол – гэта ж такая непрадказальная гульня, бывае, што каманда і прайграе. Гледачы злуюцца, лаюцца на футбалістаў. А тут з’яўляюся я. І ўсе ўсміхаюцца, усім весела.

**– Ці цяжкая гэта работа – працаваць “ваўком”?**

– Ну, па-першае, гэта работа прыемная, а потым ужо цяжкая. За матч даводзіцца фатаграфавацца з тысячу людзей. Сёння ў Маладзечне, здаецца, ужо сфатаграфаваўся 5000 разоў, некаторыя ж па некалькі разоў фатаграфуюцца.

Ваўка завуць Вулфі, так вырашылі балельшчыкі клуба “Іслач” падчас галасавання.

### Прыходзьце на стадыён за гадзіны дзве да гульні – тут ёсць чым заняцца

Аднак без недахопаў на першым дамашнім матчы ўсё ж не абышлося.

Арганізацыя праходу на стадыён пакідала жадаць лепшага. Перад пачаткам матча на стадыёне працавалі ўсяго два пункты пропуску, дзе міліцыянеры аглядалі па адным чалавеку, з-за гэтага хуткасць пропуску была павольнай. Калі пачаўся матч, гледачоў на трыбуны сталі прапускаць без білетаў.

Незадаволеныя былі і гледачы, якія прыйшлі на футбол з маленькімі дзецьмі. Некаторым у чарзе па салодкую вату давялося выстаяць амаль гадзіну.

Гэтыя пытанні мы накіравалі дырэктару клуба **Сяргею Мельнікаву:**

– Я прашу аматараў футбола з Маладзечна не судзіць нас строга. Мы таксама навічкі ў вышэйшай лізе. І ў нас няма досведу, як трэба арганізоўваць усю працу. Усе заўвагі, якія паступаюць ад маладзечанцаў, мы разглядаем і да наступнай гульні пастараемся выправіць.

На першай гульні на стадыёне працаваў толькі адзін гандлёвы пункт з шашлыкамі і півам, але да наступнай гульні Сяргей Мельнікаў паабяцаў, што будуць імкнуцца атрымаць дазвол яшчэ на некалькі гандлёвых месцаў.

– І я хацеў бы папрасіць аматараў футбола піць піва ў адведзеных для гэтага месцах, не праносіць піва на глядацкія трыбуны, каб пазбегнуць праблем з міліцыяй.

**– Некаторыя гледачы, якія купілі абанементы, прасілі, каб ім была нейкая льгота.**

– Я не ведаю, ці дае абанемент права на льготу. Гэта як праязны ў грамадскім транспарце. Калі вы яго купляеце, вы ж не просіце, каб у вас заўсёды было вольнае месца ў аўтобусе. Але і гэту просьбу мы не пакінем без увагі: калі на стадыёне будзе такая магчымасць, то пастараемся арганізаваць для шчаслівых уладальнікаў абанементаў асобны ўваход. Толькі ці прапусцяць астатнія заўзятары такіх “ільготнікаў”?

А ўвогуле, каб не было такіх праблем, хочацца параіць прыходзіць на стадыён загадзя. Паверце, там будзе чым заняцца. І гандаль будзе працаваць, і пракат машынак для дзяцей.

**Наталля ТУР.**

# Фэст экскурсаводаў у рэгіёне: пешаходны па Маладзечне або па Будслаўскім касцёле з манахам-бернардынцам!

МАЛАДЗЕЧНА

**У выхадныя, 23-24 красавіка, у краіне адбудзецца чаргові фэст экскурсаводаў.**

Жыхароў нашага рэгіёна запрашае на экскурсію па Маладзечне **Уладзімір Садоўскі**.

Падчас экскурсіі слухачы пазнаёмяцца з кароткай гісторыяй станаўлення Маладзечна, пабачаць будынкі розных перыядаў развіцця горада. Маршрут будзе пралягаць ад вуліцы Таўлая да Цэнтральнай плошчы.

Месца пачатку экскурсіі: на рагу вуліц Лібава-Роменскай і Таўлая, каля былога кафэ "Шырван" і будынка падатковай інспекцыі.

Пачатак экскурсіі ў 11 гадзін. Адбудзецца яна ў суботу, 23 красавіка.

Таксама ў суботу тых, каму бліжэй дабірацца да Будслава, запрашае на экскурсію манах-бернардынец. Ён раскажа пра гісторыю і сучаснасць Будслаўскага касцёла. Пачатак экскурсіі ў 12:00.

Іншыя экскурсіі па ўсёй краіне можна паглядзець тут: http://guides.by/fest/regions/ "Фэст экскурсаводаў –2016".

**Наталля ТУР.**

ТЭАТРЫ

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Страшнік Гам**" (музычная казка), *П.Васючэнка*, бел.
24 красавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Кошкі-Мышкі**" (казка-гульня па матывах п'есы *Аркадзя Хайта* "Дзень нараджэння ката Леапольда")
28 красавіка – у 12:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Плачу наперад**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*
22 красавіка – у 19:00

"**Падобны на Стынга**" (спектакль-рэтра ў 2-х частках), *Ірына Пісьменная*
26 красавіка – у 19:00

"**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-драматычны спектакль)
28 красавіка – у 19:00

***Маладзечна, Чкалава, 7.***
**Тэл. для даведак:**
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

**30-Й ГАДАВІНЕ АВАРЫІ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС ПРЫСВЯЧАЕЦЦА**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | | | | | 5 | | |
| 1 | 2 | | | 5 | | 6 | | |
| 5 | | 7 | 8 | | | | | |
| | | 1 | | | 2 | | | 7 |
| 7 | | | 1 | | 6 | | | 3 |
| 6 | | | 5 | | | 1 | | |
| | | | | | 7 | 4 | | 6 |
| | | 6 | | 9 | | | 2 | 5 |
| | | 4 | | | | | 3 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Маладзечанка захапілася ідэяй "Жывой бібліятэкі" і прывезла яе ў горад

МАЛАДЗЕЧНА

**У гэтай "бібліятэцы" замест кніг – людзі, а замест чытання – размова.**

Выглядае так: арганізатары шукаюць і запрашаюць на ролю "кніг" людзей, якія чымсьці вылучаюцца. Сярод іх могуць апынуцца аўтаспыншчык, веган, чалавек, які адсядзеў у турме, ці той, хто спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Хтосьці, каму давялося пацярпець ад хатняга гвалту, ВІЧ-пазітыўны, маладая маці з хворым дзіцем, феміністка, інвалід, філосаф. Хто заўгодна. Але гэта людзі, да якіх у грамадстве неадназначнае стаўленне ці на якіх вісіць процьма стэрэатыпаў.

Ідэя ў тым, што "кнігі" шчыра расказваюць сваю гісторыю тым, каму яна цікавая. Вы можаце прыйсці на сустрэчу і задаць гэтым людзям тое пытанне, на якое вам даўно хацелася атрымаць адказ. У "Жывой бібліятэцы" удзельнічаюць людзі, гатовыя да размоў і пытанняў.

Навошта гэта? Каб разбіць стэрэатыпы, каб лепш разумець адзін аднаго, каб пачуць іншых і адказаць на пытанні самому сабе.

Вы прыходзіце на сустрэчу, запаўняеце картку чытача, пазначаеце, з якой "кнігай" хацелі б пагаварыць і – наперад. Адно правіла: спікер мае права не адказваць на ваша пытанне, калі яно ставіць яго ў няёмкае становішча.

**У Маладзечне першая "Жывая бібліятэка" пачнецца ў 18:00 у "Рэд бары" ў нядзелю, 24 красавіка. Уваход вольны!**



Фота Настасі РОЎДЫ.

Ініцыятарка правядзення "Жывой бібліятэкі" ў Маладзечне Юля Мароз.

У першай сустрэчы ў Маладзечне плануецца, што ўдзел возьмуць шэсць спікераў. Сярод іх невідушчы выкладчык, аўтаспыншчыца, жанчына-байкер. Іншыя ўдзельнікі стануць вядомыя пазней.

**Юля Мароз**, якая ініцыявала правядзенне "Жывой бібліятэкі" ў Маладзечне, дазналася пра яе ў інтэрнэце.

– Я даведалася, што яна ідзе ў Мінску. Мне заўсёды цікавыя сацыяльныя праекты, я люблю знаёміцца, размаўляць з цікавымі людзьмі. І я паехала ў сталіцу паўдзельнічаць у "бібліятэцы" ў якасці валанцёра. Потым, паглядзеўшы, што гэта такое, прапанавала сябе ў якасці "кнігі". Расказвала пра тое, як валанцёрыла ў параалімпійскіх гульнях у Сочы ў 2014 годзе. Потым вырашыла, навошта хадзіць далёка? Трэба рабіць у Маладзечне, – распавядае Юля.

У Мінску "Жывую бібліятэку" праводзяць ад восені 2014 года прыкладна раз на месяц-паўтара. Летась каманда арганізатараў аб'ездзіла з такімі сустрэчамі ўсе абласныя гарады Беларусі.

– Мне вельмі хочацца, каб праект зацікавіў маладзечанцаў, каб яны прыйшлі на сустрэчу. Я думаю, такі незвычайны досвед пакіне добрыя ўражанні, цёплыя эмоцыі. Людзі стануць больш увагі звяртаць адзін на аднаго, пачнуць паважаць меркаванні іншых. Гэта пробная сустрэча. Мы не ведаем, які атрымаем водгук. Калі ініцыятыва спадабаецца людзям, мы працягнем ладзіць падобныя сустрэчы ў Маладзечне.

Праект нарадзіўся ў Даніі ў 2000 годзе. "Жывую бібліятэку" ўпершыню правялі падчас музычнага фестывалю Roskilde. З таго часу ініцыятары стварылі адмысловую арганізацыю і паспрыялі таму, што да гэтай ініцыятывы далучылася прыкладна 70 краін свету.

**Настасся РОЎДА.**

## У Вілейцы паказваюць "Гэты чароўны свет"

ВІЛЕЙКА

У выставачнай зале імя Сілівановіча з 21 красавіка пачынаецца выстава **Ганны Сілівончык** "Гэты чароўны свет".

Ганна Сілівончык нарадзілася ў Гомелі, цяпер жыве і працуе ў Мінску. Скончыла Беларускую дзяржаўную Акадэмію мастацтваў.

Яна працуе ў незвычайным самабытным аўтарскім стылі. Мноства разнастайных персанажаў – дзеці, закаханыя, людзі-жывёлы, людзі-анёлы, ільвы і міфічныя істоты-адзінарогі, сірэны, драконы – усе яны насяляюць своеасаблівы чароўны свет твораў Ганны Сілівончык.

**Надзея АЎДЗЕЙ,**
**навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея**

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Парадуйце стравамі грэчаскай кухні

### Соус "Дзадзыкі"

*0,5 літра смятаны павышанай тлустасці, 1 вялікі агурок, 3-4 (на ваш густ) зубкі часнаку, трохі воцату вінаграднага і аліўкавага алею, соль, перац.*

Скурку з агурка абрэжце, здзярыце яго на тарцы, адцісніце, каб пазбавіцца ад лішняга соку, і дадайце да смятаны. Часнок прапусціце праз часначніцу і пакладзіце ў смятану. Пасаліце, папярчыце, папырскайце трохі воцатам і алеем. Перамяшайце. Соус гатовы. Добра, калі ён пастаіць у халадзільніку 1-2 гадзіны, каб набраўся водару.

Такі соус падыходзіць і да мяса, і да рыбы, і да гародніны. Можна есці і як самастойную страву.

Вазьміце цыбулю, часнок, свежыя памідоры, шмат лімона і трохі патушыце. Гэты соус падыдзе да ўсіх відаў макароны.

### Салата з крабавымі палачкамі

*Крабавыя палачкі, цыбуля-парэй, ананасы з бляшанкі, соль.*

Крабавыя палачкі парэжце кубікамі, цыбулю – дробна. Дадайце ананасы і трохі маянэзу. Перамяшайце.

### Салата з печанню траскі

*Печань траскі, цыбуля-парэй, варанае яйка, сыр.*

Печань траскі трохі разамніце відэльцам, дадайце шмат цыбулі-парэю, адно варанае яйка. Пасыпце сырам і заліце маянэзам.

**Проста МАРЫЯ.**

ГАРАСКОП
22-28 КРАСАВІКА

**Авен.** Ад 5 да 30 красавіка вы знаходзіцеся пад апекай Венеры, планеты кахання. Не ўпусціце такую шыкоўную магчымасць наладзіць уласнае жыццё.

**Цялец.** Вам прыйдзецца паўдзельнічаць у канкурэнтнай барацьбе. І калі зможаце даказаць свой прафесіяналізм, то атрымаеце тое, на што нават ужо і не спадзяваліся.

**Блізняты.** Не даваляйце мозгу ленавацца. Мозг без работы з'яўляюцца майстэрняй Альцгеймера.

**Рак.** Вам у нейкай неадназначнай сітуацыі трэба будзе праявіць характар, і гэта вам пойдзе на карысць.

**Леў.** Ніколі не задумвайцеся над лічбамі, якія для вас неістотныя. Гэта ўзрост, вага і рост.

**Дзева.** Як бы там ні было, але вам варта запланаваць адпачынак, бо ваш звыш меры узбуджаны арганізм запатрабуе ўзнаўлення. Не даводзьце сябе да крайняй рысы.

**Шалі.** Зоркі раяць вам не зацыклівацца на тым, што не даспадобы. Мо, вашы чаканні проста завышаныя. Недарэмна кажуць, што пошукі шчасця – гэта галоўная крыніца няшчасця. Знізіўшы планку сваіх патрабаванняў да жыцця, вы адчуеце сябе нашмат шчаслівейшымі.

**Скарпіён.** Упэўнена плануйце любыя нагрузкі, бо патэнцыял вашага здароўя вялікі і невычарпальны. Але нават самыя здаровыя даводзяць сябе даператамлення. Таму не грэбуйце сном і прагулкамі на свежым паветры.

**Стралец.** Зоркі раяць заняцца абуладкаваннем уласнай кватэры ці дома. Рабіце жыллё больш утульным, стварайце ў ім прыемную атмасферу. А для гэтага можна набыць нейкія прадметы інтэр'ера, новую мэблю ці пераставіць старую, унесці розныя дробныя змяненні. І ваша жыццё зайграе новымі фарбамі.

**Казярог.** Ніколі не вяртайцеся туды, дзе вы адчуваеце віну. З'ездзіце ў магазін, нават у іншую краіну, але не туды, дзе адчуваеце віну.

**Вадалей.** Перыяд абяцае быць умерана актыўным і дастаткова спакойным. Адзінае, на што вам варта звярнуць асаблівую ўвагу, – на свой настрой. Трэба, каб нічога вас не выбівала з каляіны, не вылівалася ў прыдзіркі, незадавальненні.

**Рыбы.** Смела бярыцеся за новыя справы і не бойцеся, што ў вас нешта не атрымаецца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## ● НАДВОР'Е

### 23 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +6 | | +2 / +8 | | +5 / +8 | | +4 / +14 | |
| | 730 | ↘ 9 | 738 | ↗ 3 | 732 | ↘ 2 | 729 | ← 4 |
| Вільня | +3 / +6 | | 0 / +8 | | +4 / +7 | | +3 / +10 | |
| | 740 | ↘ 5 | 746 | ↗ 4 | 742 | ↘ 2 | 741 | ↓ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.50
Захад 20.31
Даўжыня дня 14.41

Усход 21.43
Захад 6.47
Квадра 3




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -8,8 °C у 1981 годзе
Максімальная тэмпература +24,5 °C у 2000 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,2 мм у 1979 годзе
Паводле meteoinfo.by

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што для вас значыць слова суботнік?



**Нэлі Казакова, пенсіянерка:**
– Я не думала пра гэта, што значыць для мяне суботнік. Толькі ўсё жыццё актыўна прымала ў іх удзел, бо заўсёды была перадавой. А цяпер на дачы заўсёды дапамагаю суседзям. Да дачкі ў Літву езджу, і там у яе, дзе трэба, перакапаю, дзе трэба, перасаджу. Да працы я дурная.



**Андрэй Рачок, прадпрымальнік:**
– Суботнік у мяне асацыюецца з піянерскім дзяцінствам. Тады даводзілася рэгулярна прымаць у іх удзел. Ці патрэбныя яны цяпер, не ведаю. Мы, прадпрымальнікі, рэгулярна плацяжы на гэта робім. Таму ў агульную справу мой унёсак будзе такі.



**Павел Янкевіч, навучэнец:**
– Мне не хочацца ўдзельнічаць у суботніках, але з каледжа адпраўляюць, прымушаюць. Калі нешта трэба зрабіць для сябе, для дома – я раблю гэта з вялікім захапленнем. А ўвогуле лічу, што чысціню трэба падтрымліваць пастаянна, а не адзін раз на год.



**Наталля Мацюта, не працуе:**
– Суботнік – гэта добрая справа. Я не працую, таму прыму ўдзел у суботніку тады, калі збяромся з суседзямі, прывядзём у парадак двор, пад'езд. Лічу, што суботнікі павінны ладзіцца некалькі разоў на год.



**Ігар Смык, прадавец:**
– Для мяне суботнік звязаны з імем Леніна. Таму лічу яго перажыткам мінулага. А чысціню трэба падтрымліваць пастаянна. Заўсёды наводжу парадак ля свайго дома, бо чысты двор і дом – гэта твар яго гаспадара.



**Ірына Маўчун, дыфрастатчык:**
– Ой, суботнікі – гэта нешта школьнае. Але, калі падумаць, мы ж перад святамі наводзім парадак у сваіх кватэрах, таму таксама трэба наводзіць парадак і ў сваім горадзе.



**Караліна Лобач, удзельніца конкурсу "Міс Маладзечна-2016":**
– Не вельмі люблю гэту назву. Таму што яна запазычаная з савецкага часу. Але калі разглядаць дадзенае мерапрыемства як экалагічную акцыю, то можна сказаць, што стаўлюся да яго толькі станоўча. Як міс я павінна ісці на суботнік у абцасах? Ха. Мне здаецца, што гэта, як мінімум, нязручна. Думаю, знешні выгляд павінны адпавядаць сітуацыі, так што іду туды ў поўным узбраенні.

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

## Чытайце праз тыдзень:

● **Як цікавасць да даследавання рэк давяла мядзельскага гімназіста да Стакгольма, чытайце ў наступным нумары.**

## Вілейскіх вучняў адзначылі за гумарыстычнае кіно

**ВІЛЕЙКА**

Падвялі вынікі абласнога этапу рэспубліканскага конкурсу (фестывалю) гумарыстычнага кіно "Жарт". Прызёрамі сталі і вучні з Вілейкі.

У намінацыі "Лепшы фільм" узнагароджылі дыпломам другой ступені **Міхаіла Макарава** з сярэдняй школы №5 за фільм "Класная школа". За анімацыйны фільм "Дзед і баба" дыпломам трэцяй ступені адзначылі **Мацвея Дубягу** з сярэдняй школы №3.

У намінацыі "Лепшы сцэнарый" дыпломам другой ступені за фільм "Пра кароў" адзначылі вучня гімназіі №1 "Логас" **Уладзіслава Гакуцю**. Пра гэта ўсё распавяла намесніца дырэктара Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Наталля Рыжэвіч**.

## "Вулічны балет" – у прызёрах конкурсу

**ВІЛЕЙКА**

Калектыў "Вулічны балет" Палаца культуры заняў трэцяе месца на пятым адкрытым конкурсе па дзіцячым харэаграфічным мастацтве "Брава, дзеці!". Прайшоў ён у Мінску 16 красавіка.

У намінацыі "Народны танец" віляйчан адзначылі за лезгінку, паведаміла кіраўнік і харэограф калектыву **Дар'я Галумбеўская**.

**Аддзел інфармацыі.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№17 (1095) 22.04.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 373. Падпісана ў друк у 9.00 21.04.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.